МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**№5** (133)
**травень 2013**

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



НАВІНЫ

## "БЕЛАРУСЬ ДЛЯ МЯНЕ – КРАІНА-КАЗКА". РЭПАРТАЖ З СІБІРЫ

Калі ехаць да Іркуцка з Мінска на цягніку, дарога зойме чацвёра сутак. Розніца ў часе паміж гарадамі – 6 гадзін. Але гэта не перашкаджае мне чуць і бачыць тут, ва Усходняй Сібіры, нашую мову і культуру.

**Нашыя ў горадзе**

Іду па галоўным будынку Іркуцкага рэгіёна – адміністрацыі вобласці. Па тэрыторыі рэгіён большы за Беларусь амаль у 4 (!) разы. Але жыве ў ім толькі каля 2,5 мільёнаў чалавек.

Вакол праходзяць чыноўнікі ў гарнітурах і гальштуках, але наперадзе высокі мужчына ў белай саколцы з чырвоным надпісам на спіне – "Беларусы Прыбайкалля". Яго імя мясцовыя чыноўнікі пішуць на беларускі манер – праз "а". Ён узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. У яго нават шкарпэткі з Беларусі. З Алегам Рудаковым вітаецца кожны другі.

Беларускае адраджэнне пачалося ў вобласці пасля таго, як ён заснаваў Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага. Вайсковец, што нарадзіўся на Полаччыне, стварыў арганізацыю ў 1996 годзе.

Гэта Алег Рудакоў з сябрамі зараджаў беларушчынай Андрушына і іншыя населеныя пункты.

Чутно пра таварыства ў Сібіры ўсё гучней і гучней. Тэлебачанне рэгулярна робіць рэпартажы з беларускіх святаў, гарадская адміністрацыя два гады запар прызнавала ІТБК найлепшым нацыянальна-культурным цэнтрам Іркуцка.

Вядомасць таварыства аднойчы прывяла да кур'ёзу. Калі грамадзяніна Беларусі па нейкай прычыне не прапусцілі ў суседнюю Манголію памежнікі, ён у пошуках беларускіх



*Беларусы Іркуцкай вобласці на Купаллі ў 2012 годзе*

дыпламатаў звярнуўся ў даведку іркуцкага вакзала. Не доўга думаючы, яго накіравалі ў ІТБК. Прыйшоўшы ў офіс таварыства, беларус, здаецца, вырашыў, што на Радзіме паспела змяніцца ўлада – ІТБК выкарыстоўвае ў сваёй сімволіцы бел-чырвона-белы сцяг…

➲



# "БЕЛАРУСЬ ДЛЯ МЯНЕ — КРАІНА-КАЗКА". РЭПАРТАЖ З СІБІРЫ

*Працяг. Пачатак на с.1*

**Паўстанне "Крывічоў"**

Алег Рудакоў займаецца бізнесам і нясе на сабе асноўны фінансавы цяжар утрымання таварыства. Мясцовай дыяспары беларускія ўлады не дапамагаюць. У цэнтры Іркуцка ІТБК арэндуе прыватны дом, дзе размяшчаецца музей-майстэрня "Беларуская хата".

Унутры будынка – вялікая мапа Беларусі. Вакол шматлікія паліцы з кнігамі – ад зборнікаў беларускіх песень да біяграфіі Машэрава. На сталах – вырабы з саломкі і ільну.

Частку з іх сваімі рукамі зрабіла Воля Галанава, якая ўзначальвае моладзевае аб'яднанне "Крывічы".

Воля трапіла ў таварыства ў 2003 годзе, калі прыехала вучыцца ў Іркуцк з вобласці. Падчас пошуку падпрацоўкі выпадкова наткнулася на офіс ІТБК. Размова з Алегам Рудаковым не прайшла дарма. Этнічная беларуска (яе продкі як кулакі трапілі сюды ў 1936-м) дасканала вывучыла мову, заснавала гурт аўтэнтычнай песні "Крывічы". Зараз у яе аб'яднанні налічваецца 24 сябры, якія займаюцца рамёствамі, а таксама ладзяць літаратурна-гістарычныя вечарыны і абрадавыя святы.



*Воля Галанава*

– Ачмурэць! – кажа Воля, калі даведваецца, што ад "Крывічоў" на З'езд беларусаў свету запрошаныя аж чатыры чалавекі. Ёсць у яе лексіконе і яшчэ адно слова, якое рэдка сустрэнеш у Беларусі: шасніца. Гэта значыць субота, шосты дзень у тыдні.

– Я беларуска і жадаю, каб вакол мяне было беларускае асяроддзе. Жадаю, каб мой народ жыў. Калі загіне беларуская культура – загіне і народ, – расказвае пра матывы сваёй актыўнай дзейнасці Воля, якая па асноўнай працы працуе педагогам-псіхолагам. – Разумею: тое, што я раблю, – мала. Гэта амаль што нічога. Але веру, што гэта нешта дасць, што нехта пажадае далучыцца, нешта зрабіць для беларускага руху ў Прыбайкаллі. У кожным горадзе і вёсцы нашай вобласці цяжка не знайсці беларусаў. Іх шмат, іншая справа, што не ўсе яны жадаюць актыўна сябе паводзіць у кірунку адраджэння беларускасці.

Воля Галанава з захапленнем узгадвае свой першы візіт у Беларусь.

– Першыя мае ўспаміны: цягнік ехаў у Мінскую вобласць, і я ўбачыла два дрэвы з вялікімі яблыкамі! Да гэтага я ніколі не бачыла яблыкаў на дрэве! У нас занадта жорсткі клімат для іх – зімой да 50 градусаў марозу. Я і зараз бачу гэтую карціну перад вачыма. У той момант яшчэ больш упэўнілася, што Беларусь – гэта краіна-казка, – дзеліцца эмоцыямі Воля. – Здзівіла тады, як шмат птушак у Беларусі. Лётаюць, ходзяць у полі. І не баяцца людзей! Упершыню пабачыла бусла.

**Лёсы сібірскіх беларусаў**

З'езд Іркуцкага таварыства беларускай культуры праходзіць у новым будынку абласной навуковай бібліятэкі. Алег Рудакоў і Воля Галанава з гуртом "Крывічы" вылучаюцца сярод астатніх – яны ў народных строях. Галоўнай падзеяй з'езду становяцца выбары новага старшыні: Алега Рудакова змяніла Алена Сіпакова.

Знаёмлюся з сябрамі таварыства. Лёсы іх не падобныя адзін да аднаго. Вось у сярэдніх шэрагах сталы мужчына. Гэта фотамастак Генадзь Курловіч і, між іншым, дзядзька экс-міністра МУС Беларусі Уладзіміра Навумава. Ён трапіў у Іркуцкую вобласць з родных Стаўбцоў транзітам праз Ленінградскі інстытут кінаінжынераў. Планаваў з жонкай з'ехаць праз некалькі гадоў працы, але жыццё і прыгажосць Байкала (ён добра адлюстраваны ў іх працах) прымусілі сям'ю застацца.

Адзін з самых актыўных на з'ездзе – Аляксей Максімавіч Церахаў, высокі зграбны мужчына ў гарнітуры са значком "Пагоня". Яго абіраюць намеснікам старшыні ІТБК. Праз некалькі гадзін размаўляем у яго вялікай трохпакаёвай кватэры ў наменклатурным доме з выглядам на помнік Леніну. Некалькі гадоў таму Аляксей Максімавіч выйшаў на пенсію з пасады начальніка міграцыйнай службы Іркуцкай вобласці. Яго і бабуля, і дзед прыехалі ў Сібір падчас Сталыпінскай рэформы.

– Хорошо помню, что мама и бабушка говорили по-белорусски. Бабушка научила меня чистой мове – еще без реформы 30-х, – распавядае ён. – Но в 5-м классе я пошел в школу в соседнюю деревню, там меня критиковали капитально. Ассимилировали, в общем. Вновь я стал белорусом благодаря Олегу Васильевичу Рудакову.

Аляксей Церахаў настолькі захапіўся вывучэннем сваіх каранёў, што тры гады таму ўпершыню з'ездзіў на радзіму бабулі ў Маладзечанскі раён, дзе сустрэўся са сваёй цёткай. Паставіў памятны крыж у вёсцы, якая ўжо вымерла.

**Беларуская Атлантыда**

Па дадзеных апошняга расійскага перапісу, у Іркуцкай вобласці жыве каля 14 тысяч беларусаў. Алег Рудакоў гэтую лічбу ўсур'ёз не ўспрымае. Прыводзіць прыклад вёскі Тургенеўка Баяндаеўскага раёна, дзе ледзь не самае моцнае і масавае аддзяленне таварыства і дзе школьнікі вучаць беларускую мову. Дык вось, згодна з афіцыйнымі лічбамі, ва ўсім Баяндаеўскім раёне беларусамі запісалася толькі 9 чалавек.

– Перапісчыкі як працуюць? Прыходзяць у сельсавет, бяруць іхныя дадзеныя і запісваюць усіх рускімі, – упэўнены Алег Рудакоў.

На яго думку, рэальная лічба беларусаў у разы большая. Праблема ў тым, што многія ў 3–4 пакаленні ўжо не ўсведамляюць сябе імі. Логіка ў іх прыкладна такая: "так, сваякі мае беларусы, прозвішча ў мяне Лашкевіч, але ж мая маці ўжо тут нарадзілася, таму я руская".

Пакінуўшы пасаду старшыні таварыства, Алег Рудакоў збіраецца засяродзіцца на навуковай працы.

– На поўначы вобласці нічога не вывучана, – тлумачыць ён. – Мне расказвалі, што ў Брацкім раёне (800 км ад Іркуцка) ёсць вёскі, утвораныя беларусамі. Так што перада мною непачаты край працы. Колькі працэнтаў беларусаў я знайшоў на сёння ў Іркуцкай вобласці? Думаю, не больш за 5%.

У кабінеце Алега Рудакова ў "Беларускай хаце" ляжыць вітальнае слова кіраўніцтва ЗБС "Бацькаўшчына" ўдзельнікам апошняга з'езда ІТБК. Галоўны сэнс паслання: вы даяце прыклад беларусам, што жывуць у Беларусі.

Рэдакцыя "Салідарнасці" дзякуе за дапамогу ў арганізацыі паездкі ЗБС "Бацькаўшчына" і кампаніі "Будзьма!".

*Паводле Руслана Гарбачова для "Салідарнасці"*
*Фота аўтара і з архіва ІТБК*

# ДА 17-ГОДДЗЯ ІТБК

**Кароткая гістарычная даведка аб беларусах Прыбайкалля**

Першыя выхадцы з Беларусі з'явіліся ва Усходняй Сібіры ў складзе першых экспедыцый казакоў і першапраходцаў.

У пачатку XVII ст. паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім Княствам Літоўскім (аснову гэтай дзяржавы складала Беларусь) вяліся пастаянныя войны.

Палонных маскоўскі ўрад адпраўляў у Сібір, але не ў якасці ссыльных катаржнікаў, а ў якасці першапраходцаў і ваяроў. Праўда, называлі выхадцаў з Беларусі тады не беларусамі (гэтая назва замацавалася толькі ў XIX стагоддзі), а літвінамі паводле назвы дзяржавы.

Многія беларусы-літвіны дасягалі вялікіх поспехаў на царскай службе і атрымлівалі ўзнагароды і павышэнні. Так, напрыклад, Ян Куча ўзначаліў пасольства да ойратаў у 1620–1621 гг.; Ротмістр Станіслаў Барташ кіраваў пошукамі солі ў Іртышскіх краях, дзе адкрыў салёнае Ямышэўскае возера ў 1610-х гадах; Багдан Аршынскі ездзіў у 1625 годзе ў "Калмакі да Ішымавых дзяцей царэвіча Сібірскага" і да т. п.

Неўзабаве ў Сібіры з'яўляюцца цэлыя вёскі беларусаў з Вялікага Княства Літоўскага ці, як яго коратка называлі, Літвы.

З дакументаў 1680 года вядомае паселішча Літвінцава паблізу Ілімскага астрога ва Усходняй Сібіры, якое праіснавала да саракавых гадоў XX стагоддзя.

Другая хваля, безумоўна, звязаная з удзелам беларусаў у паўстаннях 1830 і 1863 гадоў. Тады, асабліва пасля падаўлення паўстання 1863 года, беларусаў высылалі ў Сібір цэлымі вёскамі. Але паколькі ў асноўным гэта былі каталікі, то часцяком іх пачыналі стэрэатыпна называць палякамі. Так у Іркуцк трапіў Ян Чэрскі, ураджэнец Паўночна-Усходняй Беларусі (Віцебская губерня), Юзэф Каліноўскі, найбліжэйшы памочнік Кастуся Каліноўскага – кіраўніка паўстання ў Заходняй Беларусі. Каліноўскія сярод іншага выдавалі газету на беларускай мове, якую назвалі "Мужыцкая праўда". Гэта была першая беларуская газета. Юзэф Каліноўскі ў далейшым стаў манахам і атрымаў імя Рафал. Яго імем названы Рымска-каталіцкі храм, які знаходзіцца недалёка ад сквера Кірава.

Трэцяя хваля звязаная з рэформамі Сталыпіна. Пачынаючы з 1903 года, у Іркуцкі край пацягнулася цэлая чарада перасяленцаў. Яны пачалі засноўваць свае паселішчы, свой уклад і нават манеру будаваць дамы. Так былі ўтвораныя вёскі Анучынск Балаганскага раёна, Тургенеўка Баяндаеўскага раёна, Андрушына Куйтунскага раёна, Мірыніск Заларынскага раёна.

На сённяшні дзень нам вядома больш за 60 вёсак у Іркуцкай вобласці і Усць-Ардынскай аўтаномнай бурацкай акрузе.

Чацвёртая хваля – 30-я гады XX стагоддзя. І гэта не толькі палітычныя сасланыя. У 1936-37 гадах абвешчаная калектывізацыя прымусіла пераязджаць у Сібір многіх сялян, якія не жадалі ісці ў калгасы. У Сібіры ж ім паабяцалі, што яны будуць жыць аднаасобна.

Праўда, слова, як водзіцца, не стрымалі, і ўжо ў 1939 годзе калектывізацыя прайшла і ў Сібіры. Так была ўтворана вёска Тарнопаль Балаганскага раёна.

Пятая хваля звязаная з камсамольскімі будоўлямі. Брацкая ГЭС, Усць-Ілімская ГЭС былі пабудаваныя збольшага беларускімі будаўнікамі, якія да гэтага часу засталіся жыць у Іркуцкай вобласці.

Ну і нарэшце, апошняя масавая хваля перасяленцаў з Беларусі звязаная з Чарнобыльскай катастрофай і вывадам ракетных войскаў з Беларусі.

На сённяшні дзень, паводле апошняга перапісу, у Іркуцкай вобласці пражывае каля 14 тысяч беларусаў. Але напраўду іх нашчадкаў, ды і саміх беларусаў, значна больш.

Мы ў этнаграфічных экспедыцыях сустракалі беларускіх бабуль, якія і вонкава, і па гаворцы выдавалі з сябе беларусаў. Яны так і гаварылі: "Мы беларусы, а народ наш рускі!" Паводле нашых самых сціплых падлікаў, беларусаў у Прыбайкаллі не менш за 50 тысяч чалавек.

**Кароткая інфармацыя аб ІТБК**

Рэгіянальная грамадская арганізацыя "Іркуцкае таварыства беларускай культуры ім. Яна Чэрскага" (ІТБК) была створаная 31 мая 1996 года на першым З'ездзе беларусаў Іркуцкай вобласці.

Сёлета нам споўнілася 17 гадоў.

ІТБК – добраахвотная грамадска-асветніцкая арганізацыя, мэта якой – адраджэнне і развіццё духоўных і культурных каштоўнасцяў беларускага народа, узвышэнне яго самасвядомасці, распаўсюд і падтрымка нацыянальных звычаяў, рамёстваў, жыццёвага ўкладу і маральных асноваў.

За 17 гадоў нашай дзейнасці праведзеная вялікая праца: адбылося мноства сацыяльна значных мерапрыемстваў, уцягнутая вялікая колькасць людзей. На сённяшні дзень ІТБК вядзе працу па 20 асноўных напрамках, створана 11 філіялаў ва Усходняй Сібіры, падтрымліваецца кантакт з 14 раёнамі Іркуцкай вобласці.

Пры Таварыстве паспяхова дзейнічаюць 10 фальклорных ансамбляў, Беларускі народны хор, 3 танцавальныя групы, сярод якіх прысутнічаюць і дзіцячыя калектывы. У двух нашых аддзяленнях створаныя дзіцячыя лялечныя тэатры "Батлейка".

Увесь час дзейнічае Маладзёжны клуб "Крывічы", які будуе сваю працу па секцыях, у тым ліку навучанне аўтэнтычнаму спеву і бытавому танцу. У ІТБК таксама працуюць 10 секцый прыкладнога мастацтва: саломапляценне, бісерапляценне, поясапляценне, ткацтва на кроснах, на бёрдах, выраб народных касцюмаў, старадаўніх фібул і абрадавых лялек, выцінанка і валенне з воўны.

Актывісты ІТБК пастаянна бяруць удзел ва ўсіх мерапрыемствах, арганізаваных адміністрацыямі як горада Іркуцка, так і Іркуцкай вобласці, якія тычацца нацыянальнай палітыкі. Прычым гэта мерапрыемствы не толькі творчага плану (фестывалі, канцэрты, вечары), але і навукова-метадычных напрамкаў (канферэнцыі, круглыя сталы, дыскусійныя клубы).

Дзякуючы падтрымцы адміністрацыі горада Іркуцка мы маем у цэнтры горада офіс, у якім размяшчаецца бібліятэка беларускай літаратуры.

Сярод сябраў Таварыства ёсць шмат вядомых у Іркуцку навукоўцаў, пісьменнікаў, паэтаў, кампазітараў, мастакоў, палітыкаў.

*Паводле Алега Рудакова*

## ВАЛЕРЫЙ КАЗАКОЎ ПАДАРЫЎ МАГІЛЁВУ КНІЖНЫЯ РАРЫТЭТЫ



13 траўня ў Магілёўскай ратушы адбылася прэзентацыя набытага асобніка Статута Вялікага Княства Літоўскага.

Падараваны асобнік Статута ВКЛ быў выдадзены ў Вільні ў 1744 годзе на польскай мове.

Пошукамі рарытэта займаўся калекцыянер Аляксандр Коган, грошы ахвяраваў пісьменнік, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, кіраўнік Федэральнай нацыянальнай культурнай аўтаноміі “Беларусы Расіі” Валерый Казакоў. Па словах апошняга, за кнігу прыватная асоба з Кастрамы запрасіла менш за тысячу даляраў.

“Уладальнік Статута нават не разумеў яго каштоўнасці. Ён быў упэўнены, што мае падручнік па польскай гісторыі, — кажа Валерый Казакоў. — Гэта сведчыць пра тое, што многія нашыя каштоўнасці, якія захоўваюцца ў прыватных калекцыях і музеях замежжа, там не патрэбныя. Іх магчыма выкупіць за невялікія грошы. Толькі гэтым трэба займацца: шукаць, дамаўляцца, вывучаць. А сёння вяртаннем культурнай спадчыны займаюцца асобныя апантаныя людзі. І часам сорамна і не зразумела, за што некаторыя чыноўнікі Міністэрства культуры атрымоўваюць заробкі”.

“У адрозненне ад выкупленага намі раней асобніка Статута ВКЛ, гэтая кніга не з'яўляецца ўнікальнай, — распавядае дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў. — Падобны асобнік захоўваецца, напрыклад, у Мінску. Ён уяўляе сабой канвалют з трох асобных выданняў. Гэта значыць, што акрамя Статута ВКЛ у кнізе пад адной вокладкай змешчаны “Трыбунал ВКЛ” і “Інструктаж”. Але асаблівую каштоўнасць тут маюць так званыя маргіналіі, пазнакі на старонках выдання. Эксперты высветлілі, што ўладальнікам кнігі быў шляхціц з Магілёўшчыны Антоній Сабанскі”.

Акрамя таго, удзельнікі прэзентацыі змаглі ўбачыць і іншыя экспанаты, набытыя з дапамогай Валерыя Казакова – “Собрание сочинений Георгия Конисского” 1835 года і “Вестнік Могілевского земства” 1915 года. Яны, як і новы Статут, застануцца ў Музеі гісторыі Магілёва.

У гэты ж дзень Валерый Казакоў наведаў абласную бібліятэку і ўзяў удзел у імпрэзе “Баркалабаўскі летапіс – нацыянальная каштоўнасць беларусаў”. Падчас імпрэзы В. Казакоў зрабіў падарунак – перадаў абласной бібліятэцы факсімільныя выданні “Баркалабаўскага летапісу” і “Слуцкага Евангелля” і адзначыў, што кнігу трэба берагчы, бо пакуль будуць існаваць кнігі – будуць і людзі жыць. Пісьменнік заўважыў, што калі ён вучыўся ў магілёўскай школе № 24, то быў чытачом бібліятэкі, але як літаратар наведаў яе ўпершыню. Таксама наш зямляк расказаў пра сябе і адказаў на шматлікія пытанні прысутных.

*Паводле lit-bel.org*
*На здымку - Валерый Казакоў*

## У ВАРШАВЕ ПРЭЗЕНТАВАЛІ КНІГУ “ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ КРАТАЎ”

У Беларускім доме ў Варшаве адбылася прэзентацыя кніжкі Аляксандра Тамковіча “Жыццё пасля кратаў”. У выданні сабраныя біяграфіі асобаў, якія трапілі пад рэпрэсіі пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. На мерапрыемстве прысутнічалі героі кнігі Алесь Міхалевіч, Аляксандр Атрошчанкаў, Наталля Радзіна, Зміцер Дрозд, Улад Кобец. Паводле словаў аўтара кніжкі Аляксандра Тамковіча, кніжку было пісаць прыемна, але цяжкасці таксама былі.

Аляксандр Тамковіч: “Звычайна, чым больш падзеяў, тым менш цікавымі яны робяцца. А тут, дзякуючы “Вясне”,




дзякуючы гэтай кніжцы, у нас атрымалася прыцягнуць увагу да падзей і да канкрэтных людзей, якіх я не паспеў запісаць. Я вельмі шкадую, што таго ж Грыбкова я не паспеў запісаць і ўжо не паспею. Таму што ўжо чалавека няма”.

Кніга выйшла пры інфармацыйнай падтрымцы праваабарончага цэнтра “Вясна”. Выданне можа прачытаць кожны ў сеціве на Kamunikat.org, а таксама атрымаць у падарунак ад самога аўтара.

*Паводле Вікторыі Сцепановіч, “Беларускае Радыё Рацыя“*

## ШПАЦЫРЫ ПА БЕЛАРУСКАЙ МАСКВЕ: БАРЫСАЎ КАМЕНЬ У КАЛОМЕНСКІМ

У адным з маскоўскіх паркаў стаіць старажытны артэфакт з Беларусі.

Захавалася ўсяго чатыры камяні, якія полацкі князь Барыс у XII стагоддзі расставіў на межах сваіх уладанняў. Адзін з іх цяпер стаіць у парку Каломенскае ў паўднёвай частцы Масквы.

Дакладная мэта ўсталявання гэтых камянёў невядомая, але гісторыкі праводзяць паралель з дахрысціянскімі звычаямі пакланення камяням, якія былі распаўсюджаныя ў продкаў беларусаў.

На камні выява крыжа і два надпісы: “сулн/Борь“ злева ад крыжа і “хрь/сть“ — справа.

Камень, што цяпер ляжыць у Каломенскім, быў вывезены ў Маскву з Беларусі ў 1888 годзе. У парку беларускі артэфакт быў усталяваны ў 20-х гг. мінулага стагоддзя.

Гэта толькі адна са шматлікіх гістарычных каштоўнасцяў, якія былі вывезеныя з Беларусі ў Расію ў часы расійскай і савецкай акупацыі. Як і ў сітуацыі з многімі іншымі каштоўнасцямі, сучасныя ўлады Рэспублікі Беларусь не робяць нічога, каб вярнуць вывезены з Беларусі скарб на радзіму.

*Алесь Чайчыц, “Наша Ніва“*

# ВЯЧКА ЦЕЛЕШ: "МЫ ЗАЎСЁДЫ БЫЛІ ЗА НЕЗАЛЕЖНУЮ ЛАТВІЮ"

Звычайна, калі размова тычыцца беларускіх меншасцяў у суседніх з Беларуссю краінах ЕС, згадваюцца беларусы Польшчы ці Літвы. Аднак паводле афіцыйных дадзеных найбольшая колькасць этнічных беларусаў пражывае ў Латвіі, якая з розных прычынаў застаецца менш заўважнай. Пра сітуацыю беларусаў у Латвіі распавядае Вячка Целеш, старшыня "Аб'яднання мастакоў беларусаў Балтыі "Маю гонар".

**The_Point Journal / Belarusian Review**: *Колькі цяпер беларусаў жывуць у Латвіі і якія асноўныя адметнасці гэтай нацыянальнай супольнасці?*

**Вячка Целеш**: У канцы савецкага панавання ў Латвіі пражывала каля 120 тыс. этнічных беларусаў. Ад тых часоў з розных прычынаў колькасць беларускага насельніцтва ў Латвіі зменшылася. Цяперашнія лічбы кажуць пра прыкладна 70 тыс. латвійскіх беларусаў. Найбольш беларусаў пражывае ў сталічнай Рызе, а таксама ў Латгаліі – Даўгаўпілсе (Дзвінску) і ягоных ваколіцах. Нагадаю, што калісьці Латгалія была часткай Віцебскай губерні, цяпер гэта тэрыторыя ёсць часткай Латвійскай нацыянальнай дзяржавы. Беларусы тут не прызнаюцца за аўтахтонаў, як і рускія ці палякі, якіх тут шмат і якія калісьці з беларусаў ператварыліся ў рускіх, палякаў або латышоў. У Латвіі дзейнічае шэраг беларускіх арганізацыяў. Першай беларускай арганізацыяй у Латвіі было Латвійскае таварыства беларускай культуры "Світанак", якое ўвосень 2013 г. адзначыць свой 25-гадовы юбілей. Я быў адным з тых людзей, што стаялі ля пачаткаў гэтай арганізацыі. З цягам часу беларусы ў Латвіі пачалі раз'ядноўвацца. Нашаму "Світанку" не было магчымасці ездзіць у Даўгаўпілс ці Лудзу (Люцын), каб дапамагаць тамтэйшым беларусам. Гэтым, на жаль, скарысталіся пэўныя асобы, яны прасавецкія, якія не падтрымлівалі з першага дня незалежнасць Латвіі. Яны падтрымліваюць беларускую культуру і мову, аднак не хочуць мець аніякіх кантактаў з намі, бо бачаць, што мы падтрымліваем палітыку Латвійскай еўрапейскай дзяржавы, а не глядзім на Усход. Таму беларусы ў Латвіі таксама, як шмат дзе, ёсць раз'яднанымі.

**T_P/BR**: *Якія магчымасці стварае Латвійская дзяржава для развіцця нацыянальных меншасцяў і іх культураў?*

**ВЦ**: Латвійская дзяржава з першага дня аднаўлення сваёй незалежнасці ў 1991 г. дала магчымасць усім нацыянальным супольнасцям адраджаць сваю культуру і мець правы нацыянальнай культурнай аўтаноміі. Ад таго часу наша дзейнасць накіраваная на захаванне беларускай культуры і нацыянальнай ідэнтычнасці ў Латвіі. Дзяржава нам дапамагае, але ўсё залежыць ад нас саміх. Пры гэтым я не адчуваю якога-небудзь уціску правоў нацыянальных меншасцяў, у тым ліку ў моўнай сферы. Калі чалавек паважае народ, гісторыю і культуру зямлі, куды ён прыехаў, а таксама ведае латышскую мову, то, жывучы ў латвійскім грамадстве, ён не будзе мець аніякага дыскамфорту.

Я яшчэ ад часоў Гунтыса Улманіса з'яўляюся сябрам "Кансультацыйнай рады па справах нацыянальных меншасцяў" пры Прэзідэнце Латвіі ад Латвійскага Беларускага культурнага таварыства "Світанак". У гэтай радзе мы вырашаем пытанні, якія тычацца нацыянальных меншасцяў, у тым ліку і беларусаў Латвіі. Напрыклад, кожная нацыянальная меншасць мае паўгадзінную праграму на дзяржаўным радыё на сваёй роднай мове. У звязку з фінансавым крызісам, існавала небяспека закрыцця праграмаў на шэрагу моваў, у тым ліку і на беларускай. Аднак нам удалося яе адстаяць. Такім жа чынам нам удалося адстаяць і беларускую школу, над якой вісела пагроза закрыцця праз малую колькасць вучняў.

**T_P/BR**: *Звычайна кажуць, што Латвійскае грамадства падзяляецца на латышоў і так званых "русскоязычных", куды таксама аўтаматычна залічваюць і беларусаў. Як беларусам Латвіі ўдаецца захаваць сваю тоеснасць і пры гэтым заставацца беларусамі, а не часткай "русскоязычной" супольнасці?*

**ВЦ**: Як я ўжо казаў, чалавек, які ведае латышскую мову, не адчувае аніякага дыскамфорту ў Латвіі. З боку ўраду краіны назіраецца паслядоўная палітыка, накіраваная на тое, каб нацыянальныя меншасці, якія воляй лёсу апынуліся ў Латвіі, ведалі дзяржаўную мову і нароўні з латышамі працавалі на карысць латвійскай дзяржавы. Тыя ж, хто пагардліва ставіцца да дзяржаўнай мовы, складаюць шматнацыянальную масу, што неафіцыйна атрымала "нацыянальнасць" "русскоязычные" (лат.: krievvalodīgie). Сярод гэтых людзей шмат тых, хто не мае грамадзянства Латвіі, бо атрыманне грамадзянства залежыць ад ведання латышскай мовы, Канстытуцыі і дзяржаўнага гімну. На жаль, пытанне сітуацыі "русскоязычных" выкарыстоўваецца пэўнымі дзеячамі дзеля дасягнення сваіх асабістых палітычных мэтаў. Тут можна хаця б прыгадаць спробу надання рускай мове статусу другой дзяржаўнай мовы ў Латвіі шляхам скандальнага рэферэндуму.

Беларусам не трэба баяцца асіміляцыі і тут усё залежыць ад кожнай сям'і. Навучанне на латышскай мове ў школе і ўніверсітэце адкрывае перад чалавекам дадатковыя магчымасці, каб рэалізаваць сябе ў латвійскім грамадстве. Важна, каб бацькі вучылі сваіх дзяцей беларускай мовы і ў сям'і захоўвалі нацыянальныя традыцыі і культуру. Тады іх дзеці застануцца беларусамі.

*Размаўляў Кірыл Касцян*

*Гэты артыкул з'явіўся па-англійску ў Belarusian Review, Vol. 25, No. 2*



# РОВАРНЫ РЭЙД ПАМЯЦІ ГЕНЕРАЛА

Сябры Беларускай Нацыянальнай Памяці разам з іншымі актывістамі правялі роварны рэйд памяці генерала Станіслава Булак-Балаховіча. Рэйд прайшоў ужо 4-ы год запар у Варшаве па месцах, звязаных з імем генерала. Паведаміў арганізатар рэйду Анатоль Міхнавец: "Беларусы, якія жывуць у Варшаве, сёння праехалі традыцыйным шляхам з цэнтра Варшавы ад помніка дэ Голя на раён Саска Кэмпа, там, дзе загінуў Станісаў Булак-Балаховіч. Каля памятнай шыльды мы ўзгадалі яго хвілінай маўчання, пазней рушылі праз цэнтр Варшавы на Павонзкія могілкі, дзе ёсць сімвалічная магіла генерала Булак-Балаховіча. Мы ехалі на роварах з бел-чырвона-белымі сцягамі, і ў адным месцы сустрэлі беларускія аўтамабілі, якія нам пасігналілі. З добрымі ўражаннямі, без здарэнняў мы праехалі гэты маршрут".

Булак-Балаховіч загінуў 10 траўня 1940 года ў Варшаве. Паводле найбольш распаўсюджанай версіі, генерала Булак-Балаховіча, які не надаў увагі канспірацыі, у 1940 годзе агенты гестапа застрэлілі сярод белага дня ў цэнтры Варшавы. Цела генерала гестапаўцы вывезлі, дагэтуль незразумела, дзе і што з ім стала, адзначае Анатоль Міхнавец.

*"Беларускае Радыё Рацыя"*

# БЕЛАРУСКІ БІСКУП СІБІРЫ



Кірыла Клімовіч ужо дзесяць гадоў як біскуп каталіцкай дыяцэзіі святога Язэпа. "Наша Ніва" патэлефанавала ў Іркуцк, каб задаць колькі пытанняў айцу Кірылу.

**"Наша Ніва"**: *Вы ўжо дзесяць гадоў у Сібіры. Цяжка было прызвычаіцца да мясцовага каларыту?*

**Кірыла Клімовіч**: Вядома ж! У Беларусі я быў дапаможным біскупам пры Казіміру Свёнтку, валадарства яму нябеснае. А тут стаў ардынарыем. Гэта самая вялікая епархія — больш за 10 мільёнаў квадратных кіламетраў. Шмат нацыянальнасцяў, не толькі расейцы, палякі ці беларусы. Але і якуты, бураты, эвенкі, хакасцы… І за ўсю гэтую тэрыторыю адказны я. Праблем хапае, святароў не надта шмат. У нас тут толькі тры святары-расейцы. Астатнія са Славакіі, Амерыкі, Індыі, Інданезіі… З Беларусі, на жаль, няма нікога.

**"НН"**: *У Вас цікавы лёс. Нарадзіліся ў Казахстане, жылі ў Беларусі і Польшчы. Цяпер вось у Сібіры. А кім сябе лічыце?*

**КК**: Чалавекам. Як казаў апостал Павел, для Хрыста няма ні грэка, ні юдэя. Заўсёды кажу, што я Божы цыган. Я там, куды пасылае мяне Бог. Але грамадзянства ў мяне беларускае.

**"НН"**: *Вам амаль 61 год, а застаяцеся вельмі бадзёрым чалавекам.*

**КК**: Бог дае ўсё. Калі з Богам жывеш у душы, то лягчэй. Як можна па-іншаму? Мяне мітрапаліт Кандрусевіч кліча на Будслаўскі фэст сёлета, я б з радасцю паехаў, але якраз у гэтыя дні адкрываю драўляны касцёл у вёсцы Вяршына (140 км ад Іркуцка). Потым ехаць у Абакан. А так я падтрымліваю сувязь з тымі людзьмі, з кім працаваў у Мінску, званю ім.

**"НН"**: *Бачу, што беларускую мову таксама не забываецеся.*

**КК**: Калі прыязджаю ў Беларусь, то імшу служу толькі па-беларуску. Мне гэта вельмі прыемна. Я ж на ёй вучыўся з малых гадоў. Хацелася б, канечне, ведаць лепш. Як прыеду ў Беларусь, скажу павясковаму, дык так папрэ па-беларуску, што ўжо і не спыніць!

***

**Кірыла Клімовіч**

Каталіцкі біскуп. Нарадзіўся ў 1952 у вёсцы Амангельды, каля АлмаАты (Казахстан). Ад 1956 да 1965 жыў у Беларусі. Ад 1965 – у Польшчы. Скончыў духоўную семінарыю ў Ольштыне. У 1990—1999 — пробашч касцёла ў Глыбокім. Ад 1999 — дапаможны біскуп пры Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. У 2003 Папа Ян Павел II прызначыў Клімовіча ардынарыем расійскай епархіі святога Язэпа. Віцэ-старшыня Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Расіі.

*Паводле "Нашай Нівы"*

*Цалкам гутарку чытайце на сайце zbsb.org*

# ФЕСТЫВАЛЬ AD.NAK! ПРАЦЯГНУЎ ДЭДЛАЙН ПРЫЁМУ РАБОТ

Прыём работ для ўдзелу ў Чацвёртым Фестывалі беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK! працягнуты да **10 чэрвеня** ўключна. Удзельнікі, якія яшчэ не паспелі падаць свае творы, атрымалі яшчэ тыдзень, каб зрабіць гэта. Нагадваем, што ўдзельнікі могуць быць не толькі з Беларусі, але і з любой краіны.

Апошні тыдзень быў для аргкамітэта Фестывалю вельмі гарачым. Удзельнікі актывізаваліся. Па стане на раніцу 3 чэрвеня да ўдзелу ў Фестывалі было пададзена 130 работ. Сёлетні Фестываль AD.NAK! праходзіць пад слоганам "ТРЭНД BY AD.NAK — УКЛЮЧЫ ВЫКЛЮЧНАСЦЬ". Гэты слоган абазначае адметнасць сучаснай беларускамоўнай рэкламнай камунікацыі — трэндавасць камунікацыі са спажыўцамі на беларускай мове і адначасова выключнасць кожнай рэкламнай работы і майстра.

Удзел у Фестывалі AD.NAK!–2013, як і ў мінулыя гады, бясплатны. Канкурсантам прапануецца падаць свае работы на 4 конкурсы і 13 намінацый Фестывалю. Больш падрабязную інфармацыю можна знайсці на сайце adnak.by.

Фестывальны дзень AD.NAK! адбудзецца ў канцы першага летняга месяца – 27 чэрвеня.

Аргкамітэт Фестывалю AD.NAK! заўжды гатовы адказаць на любыя пытанні ўдзельнікаў. Звяртайцеся: тэл.: +375 44 554-2576, +375 29 394-8204, E-mail: adnak@budzma.org.

*Паводле adnak.by*

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ ДЖОАН СТАНКЕВІЧ ПРАЙШЛА Ў ЧЭХІІ І ПОЛЬШЧЫ

11-га траўня ў памяшканні клуба ГА "Пагоня" ў Празе адбылася прэзентацыя кнігі ўспамінаў Джоан Станкевіч пад назвай "Living with the scent of danger: european adventures at the fall of communism" ("Жыццё з водарам небяспекі: мае еўрапейскія прыгоды падчас падзення камунізму").

Спадарыня Станкевіч расказала перадгісторыю напісання кнігі, зачытала найцікавейшыя ўрыўкі і падзялілася ўражаннямі аб успрыняцці кнігі людзьмі з розных краінаў. Джоан разам са сваім мужам Вячкам запланавалі цэлае падарожжа па Еўропе "ў хатцы на колах" з мэтай пазнаёміць некалькі краінаў з новай кнігай, у тым ліку Італію, бо свае жыццёвыя прыгоды ў гэтай краіне Джоан таксама апісала ў кнізе.



Пасля прамовы Джоан слухачы мелі магчымасць задаць ёй пытанні. Калі нехта пацікавіўся, што пра Беларусь думаюць амерыканцы, Джоан прызналася, што большасць пра яе амаль нічога не ведае. І ў гэтым сэнсе адна з галоўных мэтаў прэзентаванай кнігі – пашырэнне ведаў пра Беларусь у Амерыцы і на Захадзе. Паводле словаў Джоан, кніга ўжо выклікала немалую зацікаўленасць Беларуссю сярод амерыканскіх чытачоў, некаторыя з іх нават пачалі адсочваць беларускія навіны.

На пытанне пра тое, ці не плануецца пераклад кнігі на беларускую (ці прынамсі расейскую) мову, Вячка адказаў, што гэта добрая ідэя, і магчыма ў недалёкай будучыні яны з жонкай зноў завітаюць у наш клуб з беларускай версіяй кнігі.

16 траўня прэзентацыя кнігі прайшла таксама ў зале "Склепу з культурай" суполкі "АБ-БА" ў беластоцкай школе № 4.

*Паводле pahonia.cz*
*і "Беларускага Радыё Рацыя"*

# 30 ГАДОЎ БЕЛАРУСКАМУ МУЗЕЮ Ў ГАЙНАЎЦЫ

Прапануем вытрымкі з размовы з Тамашам Ціханюком, дырэктарам Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы.

**Аляксей Мароз, "Ніва"**: *У траўні плануеце распачаць адзначаць 30-годдзе будовы і дзейнасці Беларускага музея ў Гайнаўцы. У час першага юбілейнага мерапрыемства мае адбыцца прэзентацыя новай кніжкі аб музеі.*

**Тамаш Ціханюк**: У кніжцы знаходзіцца характарыстыка будовы і дзейнасці Беларускага музея як установы і дзейнасці музейнай арганізацыі. У новым выданні паказаны этапы будовы музея і асобы, якія найбольш ангажаваліся ў справу, а пасля ў дзейнасць музея. Ініцыятарам будовы Беларускага музея і асобай, якая кіравала пабудовай, быў Канстанцін Майсеня, і мы апісваем яго дзейнасць. Змясцілі мы ў кніжцы таксама артыкулы розных аўтараў аб нашым музеі. Сярод людзей музея, якіх мы апісваем у кніжцы, ёсць таксама Васіль Сакоўскі, Аляксей Харкевіч, Ян Хіліманюк і папярэдні дырэктар музея Ян Карпюк. Юліян Казбярук вёў музейную хроніку, якая стала галоўнай крыніцай інфармацыі аб будове музея пры падрыхтоўцы кніжкі. Выданне ілюстраванае шматлікімі здымкамі, як з перыяду будовы, так і пазнейшай дзейнасці музея.

**АМ**: *Зараз у музеі працуюць пастаянныя і часовыя выстаўкі. Што ў планах на 2013 год?*

**ТЦ**: Плануем нашыя пастаянныя мерапрыемствы: Беларускі этнаграфічны фэст "Культура на сходах музея" і шэсць беларускіх фэстаў з цыкла "І там жывуць людзі". Будзем арганізоўваць многа імпрэз у рамках праекта "Прыгранічны этнічны альянс", ладзіць выстаўкі ў рамках праекта "Беларускі алфавіт мастацтва". Будуць таксама сустрэчы, ладжаныя нашай бібліятэкай у рамках праекта "Кірыліцай пісанае". Новая прапанова — адкрытыя дні нашай бібліятэкі.

**АМ**: *Доўга вы не маглі здаць у арэнду памяшканняў, у якіх раней працаваў магазін суполкі "Унібуд".*

**ТЦ**: Ужо больш за месяц у частцы гэтых памяшканняў дзейнічае паб "300 цаглін", бо для яго абсталявання выкарыстаны гістарычныя цэглы, прывезеныя з розных месцаў. Яго ўладальнік хоча арганізаваць у ім канцэрты, у тым ліку і беларускай музыкі, дэманстраваць фільмы і выступае з іншымі прапановамі, каб стварыць непаўторную атмасферу і прыцягнуць людзей. З беларускай музыкай выступаў там гурт "Veritas". Мы збіраемся ладзіць у пабе нашыя мерапрыемствы з цыкла "Музыка без засцярог". У іншым здадзеным у арэнду нашым памяшканні вядзецца арганізаваная дзённая апека над дзеткамі і ладзяцца сустрэчы з бацькамі. Зараз і нам патрэбныя новыя памяшканні для тэхнічнай працы.

**АМ**: *Як Вы трапілі ў Беларускі музей і ці зараз адчуваеце, што робіце тое, чым раней хацелі займацца ў жыцці?*

**ТЦ**: Я — выпускнік Гайнаўскага белліцэя. Калі я быў яшчэ студэнтам на спецыяльнасці анімацыя культуры ў Варшаўскім універсітэце, то пачаў з сябрамі ладзіць этнаграфічныя выстаўкі, паказваць фільмы, арганізаваць канцэрты, між іншым, беларускай музыкі. Я таксама выступаў у беларускіх гуртах. Калі я атрымаў вышэйшую адукацыю і пачаў шукаць працу, то мне работа ў музеі, як аніматару беларускай культуры, вельмі пасавала. На пасадзе дырэктара працягваю арганізоўваць беларускія мерапрыемствы, і ёсць магчымасць надалей ладзіць музейныя выстаўкі, якія паказваюць жыццё беларусаў у мінулым. З вялікім задавальненнем займаюся беларускімі справамі, а музей стаў мне і жонцы беларускім домам. Ёсць у нас надзея, што наш Беларускі музей будзе цэлы час разгортваць музейную і культурную дзейнасць.

**АМ**: *Дзякую за размову.*

*Паводле тыднёвіка "Ніва"*

# ТРАВЕНЬСКІЯ СПРАВЫ ТБК ЛІТВЫ

Напачатку траўня ў Таварыстве беларускай культуры ў Літве адзначылі дзень народзінаў заслужанага сябра – шматгадовага бібліятэкара ТБК Ніны Брылеўскай. Ёй споўнілося 93 гады. Але светлай галаве і выдатнай памяці могуць пазайздросціць і маладыя.

Разам з Нінай адзначылі таксама дзень народзінаў сябра ТБК, вядомага мастака Алега Аблажэя, які робіць значны ўнёсак у працу ТБК і карыстаецца вялікай павагаю людзей.

25-га, традыцыйна ў апошнюю суботу месяца, адбылася імпрэза, прысвечаная важным асобам і падзеям у гісторыі Беларусі.

Госць з Мінска Вячаслаў Піліпук распавёў пра высакародную справу ўшанавання памяці героя Беларусі Юркі Моніча, якую ажыццявіў мастак Алесь Пушкін.

Алесь Пушкін ставіць крыжы ў мажлівых месцах забойства Моніча, але ў гэтым яму шкодзяць і караюць мясцовыя лукашэнкаўскія ўлады. Дарэчы сказаць, у такім духу пашаны да герояў выхоўвае Алесь Пушкін і свайго сына.

Тэкст выступлення Алега Аблажэя "Прышпіленая мова" прачытаў Сяргей Ільін, бо сам аўтар знаходзіцца цяпер за мяжою і чакае рэакцыі чытачоў.

На імпрэзе абмяркоўвалі кнігу лістоў Зоські Верас "Я помню ўсё", якую падрыхтаваў і выдаў Міхась Скобла.

Пра жыццё і дзейнасць Рамана Скірмунта распавёў Хведар Нюнька.

Раман Скірмунт нарадзіўся 7 траўня 1868 года, быў дэпутатам 1-й Дзярждумы Расіі, старшынёй Беларускага Нацыянальнага Камітэта ў 1917 годзе. У 1918 г. сябра Рады БНР, старшыня ўраду.

Лёс Рамана Скірмунта склаўся трагічна. Пасля прыходу ў Беларусь Чырвонай арміі, вясковыя актывісты 20 кастрычніка 1939 года расстралялі Рамана Скірмунта ў яго ўласным маёнтку.

Напрыканцы імпрэзы быў паказаны новы фільм "Беларускі антысавецкі супраціў 1944 –1953 гадоў".

*Паводле аглядальніка ТБК Літвы*

# ВЕЛІКОДНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ТРАДЫЦЫЯ Ў САЎТ-РЫВЕРЫ

У горадзе Саўт-Рывер у штаце Нью-Джэрсі ў суботу ўвечары, 4 траўня, каля праваслаўнай царквы св. Еўфрасінні Полацкай сабраліся прыхаджане і неприхаджане на традыцыйнае асвячэнне велікоднае ежы.

Пры сонечным надвор'і ўрачыстасць асвячэння адбылася на траўніку каля царквы. Уздоўж царкоўнага будынку людзі паставілі кошыкі, напоўненыя чырвонымі яйкамі, бабкамі, мяснымі вырабамі, слоікамі з хрэнам ды запаленымі свечкамі.

Настаяцель айцец Міхаіл, у суправаджэнні царкоўнага хору, блаславіў ежу і вернікаў.

Вялікія рэлігійныя святы служаць шмат каму добрай нагодай пабачыцца з сябрамі і знаёмымі, якія жывуць воддаль, але трымаюцца сваіх традыцыяў і захоўваюць памяць пра край паходжання.

*Янка Запруднік, "Наша Ніва"*

## ІВОНКА СУРВІЛЛА АТРЫМАЛА ЎЗНАГАРОДУ АД БРЫТАНСКАЙ КАРАЛЕВЫ

Івонка Сурвіла, прэзідэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" атрымала Медаль дыяментавага юбілею Каралевы Елізаветы II на цырымоніі ў канадскім парламенце.

"Я маю гонар уручыць гэтую ўзнагароду таму, хто зрабіў так шмат, каб пасеяць зерне дэмакратыі ў Беларусі, – сказала сенатар Райнел Андрайчук на цырымоніі ўзнагароджання. – Магчыма, дэмакратыя не прыйдзе заўтра ў Беларусь, але яна прыйдзе, і ўклад спадарыні Сурвілы вельмі важны ў гэтым працэсе".

Медаль дыяментавага юбілею Каралевы Елізаветы II – дзяржаўная ўзнагарода, заснаваная ў 2012 годзе з нагоды святкавання 60-годдзя ўзыходу на трон каралевы Елізаветы II.

*Паводле charter97.org*

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" шчыра віншуе шаноўную спадарыню Івонку з узнагародай, якая ёсць сведчаннем руплівай працы на карысць Беларусі!**

Змяшчаем таксама віншаванне ад Згуртавання беларусаў Канады.




## ВІНШУЕМ "МАСКОЎСКІ КЛУБ БЕЛАРУСАЎ"!

**24 траўня "Маскоўскі клуб беларусаў" адсвяткаваў 15-годдзе сваёй дзейнасці.**

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" ад шчырага сэрца віншуе суайчыннікаў з юбілеем! Плён 15-гадовай дзейнасці "Маскоўскага клуба беларусаў" нельга пераацаніць. У суполцы сабраліся паспяховыя беларусы, якія, не зважаючы на адлегласць, не забываюцца пра Радзіму-Беларусь, не парываюць сувязі з землякамі.

Цягам усяго перыяду дзейнасці сябры Клуба неаднаразова дапамагалі Беларусі: гэта і гуманітарная дапамога сацыяльным установам, і фінансаванне Міхаілам Расолавым будаўніцтва храма на сваёй малой радзіме, і клопат пра сельскія школы і бібліятэкі, а таксама арганізацыя беларускіх святаў, канцэртаў і сустрэчаў з землякамі ў Маскве!

Дзякуй вам за гэтую дзейнасць. Жадаем далейшага плёну ў працы, а таксама радасці і натхнення вам і шматлікіх юбілеяў вашаму клубу!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў чэрвені:

**Валянціна Голубева**, **Мікалая Маркевіча** (Беларусь), **Яўгена Вапу** (Польшча), **Лявона Юрэвіча** (ЗША), **Валера Барташа** (Украіна) і **Дзмітрыя Плакса** (Швецыя).



Зычым натхнення, пазітыву, моцнага здароўя і спору ў працы!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЧЭРВЕНЬ 2013 ГОДА

4 чэрвеня – 65 гадоў таму, у 1948-м, у Канстанцы (Бадэн-Вюртэнберг, Нямеччына) пачаўся двухдзённы Першы сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы на эміграцыі, на якім гэтая царква была адноўленая.

5 чэрвеня – 75 гадоў таму ў Сібіры ў савецкім канцлагеры расстраляны Юрка Лістапад (1897–1938), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання.

8 чэрвеня – 55 гадоў таму, у 1958-м, у Беластоку заснавана беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа".

10 чэрвеня – 90 гадоў таму памёр Міхал Федароўскі (1853–1923), фалькларыст, этнограф, археолаг, калекцыянер. Пахаваны на Павонзкаўскіх могілках у Варшаве.

11 чэрвеня – 35 гадоў таму ў Лайле (Ілінойс, ЗША) памёр Янка Тарасевіч (1892–1978), грэка-каталіцкі святар, тэолаг, рэлігійны і грамадскі дзеяч эміграцыі ў Канадзе і ЗША.

17 чэрвеня – 165 гадоў таму памёр Максіміліян Рыла (1802–1848), філосаф, археолаг, каталіцкі місіянер на Блізкім Усходзе і ў Афрыцы.

17 чэрвеня – 75 гадоў таму ў Омску расстраляны Аркадзь Смоліч (1891–1938), дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі, вучоны ў галіне эканомікі і сельскай гаспадаркі, географ, картограф.

17 чэрвеня – 55 гадоў таму ў Рызе памёр Уладзімір Пігулеўскі (1889–1958), грамадскі дзеяч, пісьменнік.

22 чэрвеня – 70 гадоў таму, у 1943-м, заснаваная маладзёжная патрыятычная арганізацыя — Саюз Беларускай Моладзі (СБМ, дзейнічала у Беларусі да ліпеня 1944 г.).

22 чэрвеня – 10 гадоў таму ў шпіталі ў Бараўлянах Мінскага р-на памёр Васіль Быкаў (1924–2003), народны пісьменнік Беларусі. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

25 чэрвеня – 10 гадоў таму, у 2003-м, Савет Міністраў прыняў пастанову аб ліквідацыі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа — адзінай навучальнай установы такога тыпу ў краіне. Падзея справакавала кампанію пратэсту.

29 чэрвеня – 100 гадоў таму ў Вільні нарадзіўся Часлаў Будзька (1913–1985), грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

29 чэрвеня – 55 гадоў таму ў Вільні памёр Фабіян Ярэміч (1891–1958), грамадска-культурны дзеяч.

**Беларусы ў свеце**
№5(133), травень 2013
Падпісана ў друк 05.06.2013
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by
тэл./факс (+375 17) 200-70-27